ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432

Год XXXIII № 319 Нью Ёрк — Травень — 1984 — May — New York Vol. XXXIII № 319

## АДВАРОТНАЯ ЭКСПРАПРЫЯЦЫЯ

Савецкая дзяржава, як ведама, — адзіны гаспадар усіх матэр'яльных вартасьцяў (апрача асабістае маемасьці грамадзянаў). Вось-жа людзі вынаходзяць шмат спосабаў, як пазбаўляць гэтага абстрактнага гаспадара часткі ягонае маемасьці. І гэтая свайго роду экспрапрыяцыя знаходзіць шырокае адлюстраваньне ў савецкім друку.

Апошнім часам у друку Беларусі часта зьмяшчаюцца артыкулы начальніка Аддзелу барацьбы з раскраданьнем дзяржаўнае маемасьці Міністэрства нутраных справаў БССР Собаля, у якіх ён піша пра раскраданьне ў сыстэме аграпрамысловага комплексу. Собаль не падае ніякіх абагульненых лікаў што да гэтага раскраданьня, але факты, пра якія ён піша ў сваіх артыкулах, даюць магчымасьць рабіць некаторыя высновы. Вось толькі некаторыя прыклады.

Саўгас „Любань" Вялейскага раёну яшчэ колькі год таму быў адным зь перадавых гаспадарак рэспублікі. Але па раптоўнай сьмерці шматгадовага кіраўніка саўгасу Міроновіча справы саўгасу пайшлі наніз і пачасьціліся разам з тым раскраданьні саўгаснае маемасьці. Гэтак, летась загадчыцца фэрмы Бурко і галоўны заатэхнік Цецярук дамовіліся схаваць вясеньні прыплод кароў. Яны штучна занізілі паголоўе цялят, а лішкі прадалі „налева" і палажылі ў сваю кішэню адзінаццаць тысячаў рублёў.

Другі прыклад. Начальнік фінансавага аддзелу Лідзкага аўтарамонтнага заводу, які ўваходзіць у аграпрамысловы комплекс, Жданаў у моц свайго службовага становішча прыймаў ад калгасаў і саўгасаў у рамонт аўтамабілі. Магутнасьці заводу былі абмежаваныя, а тых, хто мусіць здаць машыны на рамонт, вельмі шмат. Дык вось начальнік фінансавага аддзелу, свайго роду галоўны кантралёр, дадумаўся браць у рамонт аўтамабілі толькі ад тых гаспадарак, якія прывозілі яму крадзеныя будаўляныя матэр'ялы, зь якіх ён пабудаваў сабе раскошны загарадны маёнтак.

А дырэктар гэтага-ж Лідзкага заводу пайшоў яшчэ далей. Ён штучна ствараў калгасам і саўгасам цяжкасьці з забясьпечаньнем іх запчасткамі ды з рамонтам аўтамабіляў і, каб развязваць набалелыя ў гэтым пытаньні праблемы, вымагаў ад прадстаўнікоў гаспадарак аднаго толькі — бульбы. І крадзеная ў гаспадарках бульба кацілася да кіраўніка прадпрыемства. Крадзенай бульбы было ў яго гэтулькі, што дырэктар Лідзкага заводу арганізаваў у вёсцы Агароднікі цэлую падпольную бульбяную базу. Тут бульба сартавалася, складалася ў тару і на адрамантаваных дзяржаўных аўтамабілях кіравалася на рынкі розных гарадоў Савецкага Саюзу — у Маскву й Калінінград, Горлаўку й Мілерава ды яшчэ шмат куды.

Шаферы, што возілі крадзеную бульбу, былі задаволеныя: дырэктар заводу дзяржаўнымі грашыма добра аплочваў іхнюю працу. За кароткі тэрмін дырэктар Лідзкага аўтарамонтнага заводу такім спосабам прысабечыў 30 тысячаў рублёў, з вузлоў-жа і запасных частак падначаленага яму заводу сабраў сабе аўтамашыну „Волга". Выявілася таксама, што калгас імя Мічурына Лідзкага раёну за адпаведныя паслугі прадаў гэтаму спрытнаму кіраўніку цэлы хутар усяго за 731 рубель.

І яшчэ ад таго-ж Собаля. Толькі летась галоўны бухгальтар калгасу імя 21-га Зьезду КПСС Дубровенскага раёну Калбасава прысабечыла больш за тры тысячы рублёў дзяржаўных грошай. Кіраўнік аўтабазы Брэсцкага абласнога ўпраўленьня хлеба-прадуктаў Граф — 4 тысячы рублёў, кіраўнік калгасу „Ціхінічы" Рагачоўскага раёну — больш як 8 тысячаў, а начальнік халадзільніка Брэсцкага мясакамбінату Ільіна дамовілася зь кіраўніком мясцовага каапгандлю Федаруком і прадалі „налева" аж тону мяса, а грошы палажылі сабе ў кішэню.

Як бачым, ува ўсіх гэтых выпадках, як і ў тысячах да іх падобных, раскрадальнікамі дзяржаўнае маемасьці сталіся не простыя людзі, а кіраўнікі так званага сярэдняга зьвяна і галоўныя бухгальтары, кіраўнікі прадпрыемстваў, загадчыкі фінансавых аддзелаў, галоўныя заатэхнікі дый іншая падобная публіка — словам, тыя, хто ў моц свайго службовага становішча забавязаныя якраз ахоўваць гэтую маемасьць.

У сваіх выступленьнях у друку начальнік Аддзелу барацьбы з раскраданьнем дзяржаўнае маемасьці Собаль наракае, што апошнім часам становіцца ўсё цяжэй змагацца з раскраданьнем сацыялістычнай маемасьці, менавіта таму, што ў раскраданьні бяруць удзел кіраўнікі сярэдняга зьвяна, якія заміж таго, каб памагаць сьледчым органам у выкрыцьці раскрадальнікаў, хаваюць іх.

Аб памерах крадзяжу дзяржаўнай маемасьці ў аграпрамысловым комплексе сьветчыць тое, што ў органах Міністэрства Нутраных Справаў рэспублікі створаны спэцыяльныя структурныя аддзелы па гэтым комплексе, што змаганьне з раскраданьнем ставіцца на навуковую аснову.

Собаль заклікае ў сваіх артыкулах, каб кожны калгаснік і саўгаснік, кожны працаўнік адпаведных прадпрыемстваў стаўся вартаўніком дзяржаўнае ўласнасьці і каб яны сачылі адзін за адным. Але ці рэальна гэта?

Як ведама, на Беларусі, як і па цэлым Савецкім Саюзе, дзеюць нязьлічоныя тысячы так званых народных кантралёраў (у маштабе Саюзу — іх мільёны), дружыньнікаў, грамадзкіх вартаўнікоў народнага дабра; праводзяцца рэйды, праверкі, агляды ды шмат а шмат чаго іншага, а раскраданьню няма канца.

Савецкія грамадзяне знайшлі спосаб забіраць назад плады свае працы, прысабечаныя дзяржавай.

**А. Насовіч**

## „ПАТРЫЯТЫЧНАЯ ТРАДЫЦЫЯ" МІТРАПАЛІТА ФІЛАРЭТА

Палітычная гісторыя Беларусі, падзяляецца, як ведама, на дарэвалюцыйны й савецкі пэрыяды. Тое, што было да 1917 году, савецкая гістарыяграфія асуджае: прыгон, эксплятатараў працоўных, рэакцыйную Расейскую Праваслаўную Царкву. І з рацыяй.

Рэакцыйнасьць Расейскае Праваслаўнае Царквы выяўлялася, між іншага, у тым, што Царква гэтая аніяк не прызнавала права беларускае мовы на якую-б там ні было ролю ў багаслужэньні або хоць-бы сабе ў школьніцтве, у навучаньні дзяцей рэлігіі. Усе гэтыя адмоўныя бакі дарэвалюцыйнае мінуўшчыны пасьлядоўна асуджаюцца савецкай гістарыяграфіяй.

І вось вы бераце ў рукі савецкую, выдаваную ў Менску для эмігрантаў, газэту „Голас Радзімы" (№ 42, 20.X.1983) і чытаеце пад заг. „**Заявление митрополита Филарета**": „Мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт прыслаў на імя Старшыні Савету Міністраў БССР Уладзімера Бровікава афіцыйную заяву..." І даецца пераказ мітрапалітавае заявы, у якой высокі саноўнік РПЦ асуджае „мілітарысцкі курс, праводжаны ў міжнародных справах адміністрацыяй ЗША". А ў канцы свае заявы Уладыка Філарэт кажа, што „Праваслаўная Царква на Беларусі верная тысячагадовай **патрыятычнай** і міратворнай традыцыі Маці-Царквы..."

Пачакайце! Дык-жа гэтая „Маці Царква" на Беларусь прыйшла толькі разам з войскам царыцы Кацярыны ў другой палавіне XVIII стагодзьдзя. А да таго часу беларускае праваслаўе мела зусім іншую патрыятычную традыцыю. Праваслаўе часоў Еўфрасіньні Полацкае ў XII ст., наваградзкага мітрапаліта Цамблака ў XV ст., Васіля Цяпінскага ў XVI ст. было патрыятычна-беларускае. Беларуская Праваслаўная Царква тады ня была часткаю Маскоўскага патрыярхату, бо самога гэтага патрыярхату ня было аж да другое палавіны XVI стагодзьдзя. На працягу стагодзьдзяў праваслаўе на Беларусі служыла беларускім інтарэсам, было скіраванае на разьвіцьцё беларускае культуры, а не на заціраньне яе. Гэта адно ад часоў Кацярыны Маскоўскі Патрыярхат, пастаўлены на службу расейскай экспансіі, мае бесьпасярэдняе дачыненьне да Беларусі. І „патрыятычная традыцыя" ягонага Беларусам нямала каштавала стратаў. Гэта-ж унук царыцы Кацярыны Мікалай „Палкін" забараніў ужываць слова „Беларусь", і зрабіў гэта, як сьцьвярджае навет беларуская савецкая гістарыяграфія, з мэтай русыфікацыі Беларусаў — „каб ваўкамі ў лес не глядзелі", як казала ягоная бабка. Гэта-ж праваслаўныя расейскія бацюшкі дапамагалі Мікалаю Першаму, як і Мікалаю Другому Апошняму, выкараняць ня толькі слова „Беларусь", але і ўсю беларушчыну. Дык пра якую гэта „тысячагадовую патрыятычную традыцыю" гаворыць сёньня прадстаўнік РПЦ на Беларусі Мітрапаліт Філарэт (і „Голас Радзімы" разам зь ім)?

Нагадайма тут, што сказаў Мітрапаліт Філарэт, калі ў 1982 г. быў у Нью Ёрку ў сьвіце Маскоўскага Патрыярха Пімена, пра беларускую мову. „Беларуская мова, — сказаў Філарэт ў гутарцы з адным амэрыканскім прафэсарам, — „штучная" і было-б „ненатуральным", калі-б сьвятар у сваёй казані зьвярнуўся да вернікаў па-беларуску". Багаслужба па-беларуску, сказаў Мітрапаліт „Мінскі і Беларускі", „гучала-б зусім не на месцы". (гл. „Беларус" № 301-302, арт. „Мітрапаліт Філарэт і беларуская мова")

Маскоўскае праваслаўе на Беларусі было й застаецца тымчасам прыладаю крамлёўскае палітыкі русыфікацыі і ўсякае цьвярджаньне пра „патрыятычную традыцыю" РПЦ ў дачыненьні да Беларусі разьлічанае на наіўных людзей.

**Аркадзь Будзіч**

## ПЕРАСЬЦЯРОГА ПЕРАД УПЛЫВАМІ ПОЛЬШЧЫ

У сёлетнім 4-м нумары маскоўскага часапісу „Коммунист" першы сакратар Берасьцейскага абкому кампартыі Беларусі Е. Сокалаў піша:

„Дадатковыя захады на ўзмацненьне клясавае скіраванасьці ўзгадаваньня працоўных былі прыняты партыйнымі арганізацыямі ў сувязі з завастрэньнем абставінаў у Польскай Народнай Рэспубліцы... У меру зьмены абставінаў у ПНР паўстала новае заданьне — прааналізаваць і вытлумачыць людзям аб'ектыўныя й суб'ектыўныя прычыны сытуацыі, што склалася там, выкрыць паклёпніцкія выдумкі заходніх радыёцэнтраў на адрас Польшчы й нашае краіны.

„Шмат якія берасьцейцы, — тлумачыць далей Сокалаў, — зьвязаныя сваяцкімі сувязямі з грамадзянамі ПНР. Нельга ня ўлічваць і таго, што ладная частка жыхароў вобласьці мае магчымасьць глядзець перадачы польскага тэлебачаньня. Да ўводу ваеннага стану ў гэтай краіне ў эфір, здаралася, ішлі перадачы антыкамуністычнае скіраванасьці. Яны паралізавалі волю Палякоў у змаганьні за ідэалы работніцкае клясы, не давалі ацэнкі дзейнасьці правых і лідэраў прафсаюзнага аб'яднаньня 'Салідарнасьць' ды іхных дараднікаў з Камітэту Самаабароны й Камітэту Абароны Работнікаў. Цірэдчас выкрыўляліся гістарычныя факты, дапушчаліся няпрыязныя выпады на адрыс нашае краіны". Нацыянальны супраціў у Польшчы тымчасам аніяк ня сунімаецца.

Варшаўскі карэспандэнт газэты „Нью Ёрк Таймс" Джон Кіфнэр на пачатку красавіка сёлета паведамляў („НЁТ", 3.IV): „Вялізарная падпольная контракультура, вялікая частка якое знаходзіцца пад аховаю Рымска-Каталіцкае Царквы, паціху ўкаранілася апошнімі месяцамі па цэлай Польшчы... Падпольная культура складаецца з шырокага дыяпазону інтэлектуальнага й творчага жыцьця: незалежныя выдавецтвы публікуюць працы зь гісторыі й літаратуры, выдаюць навуковыя часапісы й тыднёвыя падборкі навінаў; вядучыя прадстаўнікі акадэмічных і мастацкіх колаў чытаюць лекцыі па касьцёлах; дзеюць незалежныя гурткі, ведамыя як 'лятучыя ўнівэрсытэты'; трупы акцёраў ставяць па прыватных кватэрах свае паказы, з касэтак праслухоўваюцца лекцыі на палітычныя тэмы, выконваюцца тэматычныя песьні".

Паводле „Нью Ёрк Таймсу", у Польшчы сёньня выходзіць да двухсот падпольных газэтаў.

## „СТАРАЯ ХАТА"

Крытык Валянтын Тарас яшчэ ў 1980 г. дакараў беларускіх пісьменьнікаў у тым, што яны, выхадцы зь сяла, пажыўшы ў горадзе, забываюцца аб тых працэсах, якія адбываюцца на вёсцы; што яны сельскі быт ідэалізуюць, паказваюць паштоўкавую вёску, якое ніколі не існавала; што вобраз вёскі ў іх — гэта толькі плод іхнае тугі па сваім далёкім вясковым маленстве.

Што-ж, магчыма і мае рацыю Валянтын Тарас: ён не адзін у нараканьні на слабое адлюстроўваньне ў літаратуры працэсаў, што адбываюцца на вёсцы. Трэба прызнаць, што сучасная беларуская літаратура ня мае яшчэ буйных, маштабных твораў аб сучаснай вясковай рэчаіснасьці, якія ахапілі-б шырокім, філязофскім зрокам ейныя дынамічныя працэсы. Аднак далягляды сучаснае літаратуры ў дасьледваньні гэтых працэсаў з кожным годам пашыраюцца. Яшчэ адно пацьверджаньне гэтага — новая аповесьць Алеся Каждуба „Старая хата", што была зьмешчана летась у часапісе „Неман" у расейскім перакладзе.

Дзея аповесьці адбываецца на Палесьсі ў вёсцы Валюхі. У гэтую вёску прыяжджае здымачная група зь Беларускага тэлебачаньня з мэтаю зрабіць перадачу пра народнае мастацтва: ручнікі, посьцілкі, вытканыя на хатніх кроснах, вырабы з лазы, саломы, каменя, гліны — словам, пра ўсё тое, чым славіліся Валюхі ў недалёкім мінулым. Мастацтва жыло там разам з цудоўнымі народнымі песьнямі, якія прыйшлі з даўных часоў у наш дзень, якія ўвасобілі лёс краю, ягоную бяду й радасьць. Але цяпер усё гэта занядбоўваецца. Вось пра гэта й напісаная Каждубава аповесьць „Старая хата".

Ёсьць у аповесьці галоўны пэрсанаж, вакол якога разгортваецца дзеяньне, гэта — старая хата. Рэжысэр тэлебачаньня Бянчук, гараджанін, прыехаўшы ў Валюхі, кажа: „Чамусьці людзі ўсё часьцей вяртаюцца да гэтых старых хатаў. І пішуць пра іх, і здымаюць для тэлебачаньня. Вабіць яна да сябе, гэтая хата..."

Хата ў пісьменьніка нясе нагрузку вобразу рэальнага і алегарычнага. Хата — гэта народнае мастацтва ў цэлым. Але героі аповесьці ставяцца да старой хаты па-рознаму.

Антон Гусак, старшыня Валюхоўскага сельсавету, прадстаўнік улады, ставіцца да яе, як да рухлядзі, якую даўно трэба разбурыць ды пабудаваць на яе месцы камбінат бытавых паслугаў.

Для старэйшых-жа працаўнікоў вёскі — Аўдолі, Гаркушы, Радзюка ды іншых — старая хата — гэта людзі, творцы мастацтва.

Зь якім замілаваньнем расказвае Аўдоля рэжысэру тэлебачаньня пра кірмаш у далёкім мінулым. Чаго там толькі ні было: чаравікі, хустачкі, ручнікі, глячкі. І зь якім жалем скардзіцца Аўдоля, што ўсё гэта перавялося, занядбана, нават глячка для малака цяпер ніхто зрабіць ня можа.

Пісьменьнік у аповесьці ня зводзіць лоб-у-лоб гэтыя два глядзішчы на старую хату — хату, як рухлядзь, і хату, як пераховальніцу скарбаў. Пісьменьнік дасьледуе праблему: чаму традыцыі народнага мастацтва мала вывучаюцца ды, што самае жудаснае, не працягваюцца маладымі людзьмі? Чаму гэтая „старая хата", вырабы народных умельцаў вёскі Валюхі, разглядаюцца сёньня, як нейкія музэйныя экспанаты, якім толькі й засталося, каб быць паказанымі па тэлебачаньні? Ці-ж правільна гэта? — пытаецца аўтар аповесьці Алесь Каждуб у чытача.

І запраўды, чым можа замяніць сучасная культура тыя народныя традыцыі, якія развіваліся не адно стагодзьдзе? Новымі хатамі, халадзільнікамі, тэлевізарамі, камбінатамі бытавой абслугі? Часткава так. З гэтым згаджаецца да пэўнае ступені і Алесь Каждуб у сваёй аповесьці. Бо-ж які сэнс сёньня карпець над посьцілкай, ткаць яе дапатопнымі кроснамі, калі больш разумна можна гэта зрабіць на фабрычных машынах? Няма сэнсу будаваць дом сякерай, калі ёсьць больш эфэктыўныя мэтады будаўніцтва. Здавалася-б усё правільна, лягічна.

Але аўтар аповесьці „Старая хата" засяроджвае ўвагу чытача на пэрсанажах старэйшага пакаленьня, для якіх тэхнічны прагрэс — гэта яшчэ ня ўсё. Аўдоля, Гаркуша, Радзюк — пэрсанажы аповесьці — жывуць успамінамі аб мінулым. Твары іхныя прасьвятляюцца, калі яны расказваюць пра гэтае мінулае. „Душа да душы дакранаецца", зазначае Каждуб, перадаючы размову Аўдолі аб мінулым з рэжысэрам тэлебачаньня Бянчуком.

Але-ж у „старой хаце" жывуць і маладыя людзі. І тое, што яны, уцякаючы зь вёскі ў горад, трапляючы ў іншую моўную культуру, забываюцца свае мовы, свае культуры, раздвойваюцца (пра гэта сьветчаць творы Гігевіча, Карамазава, Лецкі ды іншых), шукаюць нечага і самі ня ведаюць чаго — усё гэта сьветчыць пра хворую душу жыхароў „старое хаты". Маладым вяскоўцам ня цяжка адрачыся ад сваіх каранёў, ад тае справы, якую рабілі іхныя бацькі, але цяжэй знайсьці замену гэтым караням. А сёй-той зь іх думае: дый ці варта шукаць гэтую замену?.. Вось пытаньне, што балюча стаіць перад жыхарамі „старое хаты".

Вяртаючыся да выказваньня Валянтына Тараса, які дакараў беларускіх пісьменьнікаў, што яны не адлюстроўваюць працэсу зьменаў, якія адбываюцца сёньня на вёсцы, хочацца сказаць, што апошнімі гадамі беларускія аўтары ўздымаюць вельмі актуальныя праблемы, якія стаяць перад сёньняшняй вёскай ды перад нацыянальнай культурай. І яшчэ адзін прыклад гэтаму — новая аповесьць Алеся Каждуба „Старая хата".

**Алесь Васілеўскі**

## ПРА БЕЛАРУСКУЮ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ У КАНГРЭСЕ ЗША

Як і мінулымі гадамі, у Кангрэсе ЗША сёлета шэраг кангрэсмэнаў і сэнатараў адзначылі ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі прамовамі або пісьмовымі заявамі, зьмешчанымі ў афіцыйным выданьні Кангрэсу „Конгрэшэнал Рэкорд" (Кангрэсавыя Запісы). Гэтак, сёлета выступілі з заявамі пра ўгодкі незалежнасьці Беларусі сэнатары Альфонс Д'Амата із штату Нью Ёрк і Алэн Дыксан із штату Ілінай, кангрэсмэны Джозэф Адаба (Нью Ёрк), Джэймс Флёрыё (Нью Джэрзы), Фрэнк Анунцыё (Ілінай) ды іншыя. Прамовы сэнатара Д'Амата й кангрэсмэна Анунцыё ды іншых зьмешчаныя на ангельскай бачыне папярэдняга нумару „Беларуса".

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ

**(Працяг; пачатак гл. у папярэднім нумары)**

66-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Беларусы гораду Чыкага адсьвяткавалі ўрачыста ў нядзелю 25-га сакавіка. Сьвяткаваньне гэтае папярэдзіла двутыднёвая мастацка - інфармацыйная выстаўка, прысьвечаная гэтаму сьвяту. Беларускае грамадзтва было паінфармаванае аж два разы пра сьвяткаваньне праз беларускую радыёпраграму „Нёман", і ўсім былі высланыя запросіны.

25 сакавіка на чыкагаўскай Ратушы быў вывешаны беларускі нацыянальны сьцяг.

Самое сьвяткаваньне пачалося багаслужбай, у якой узялі актыўны ўдзел і нашыя прыяцелі-Амэрыканцы. Біскуп Уладзімер у суслужэньні а. Эдварда адправіў гэтую службу і закончыў яе чулай казаньню на тэму Дабравешчаньня і нашага народнага сьвята, а ўсе прысутныя адсьпявалі нашу рэлігійны гімн „Магутны Божа". Трэба адзначыць, што Амэрыканцы ў нашай царкве знаюць гэты гімн і любяць яго сьпяваць.

Папаўдні, у прыгожай залі Рэджэнсы Ін, сабраліся Беларусы й запрошаныя госьці, каб урачыстым банкетам-акадэміяй адзначыць 66-я ўгодкі БНР.

Маладзенькая сьпявачка Авіс Прамсгафэр пры акампанімэньце Сузі Скэпдрон адсьпявала амэрыканскі гімн, а Біскуп Уладзімер сказаў уступную малітву ў абедзьвюх мовах. Хвілінай цішыні ўшанавалі памяць тых, хто аддаў сваё жыцьцё, каб жыла Беларусь. Старшыня сьвяткаваньня, сп. Лявон Сідарэвіч прывітаў гасьцей і прысутных, і пачаўся банкет.

Праграму акадэміі вёў сп. Нікодэм Жызьнеўскі. Пасьля прадстаўленьня запрошаных гасьцей былі прачытаныя праклямацыі, якімі губэрнатар штату Ілінойі мэр гораду Чыкага абвесьцілі дзень 25-га Сакавіка днём Беларускае Незалежнасьці.

Зьместоўны даклад на тэму дня ў ангельскай мове прачытала спчна Ірэна Рамук, а Міхась Б. прадэклямаваў пабеларуску патрыятычны верш.

Сьпявачкі Поля Брэжнева і Оля Шукіна, пры акампанімэньце піяніста Гэнрыка Янчэўскага, адсьпявалі солё колькі беларускіх народных песьняў, што было энтузіястычна прынята слухачамі.

З прысутных гасьцей ад Украінцаў гарачыймі прамовамі віталі Беларусаў др. Міраслаў Харкевіч і пастар Алексы Гарбузюк, шчырыя прыяцелі Беларусаў у Чыкага. Сп. Джэймс Паркэр вітаў Беларусаў ад імя кангрэсмэна Анунцыё, вялікага прыяцеля Беларусаў, які сёлета, як і ў мінулых гадох, зьмясьціў у „Кангрэсавых Запісах" сваю зьместоўную прамову аб Беларусі. (гл. у папярэднім нумары „Беларуса"). Пры гэтым трэба адзначыць, што сэнатары Алэн Дыксан і Чарльс Пэрсі, абодвы із штату Ілінойі, таксама зьмясьцілі свае заўвагі ў „Кангрэсавых Запісах".

Ад Латышоў і Камітэту Паняволеных Народаў у Чыкага вітаў Ільмарс Бэргманіс, а ад Літувісаў вітаў сп. Сумас, які нядаўна адведаў Саветы і падзяліўся сваімі ўражаньнямі з гэтага падарожжа.

Ад Палякоў вітаў шматгадовы прыяцель Беларусаў у Чыкага палкоўнік Пётр Гарцай.

Кіраўнічка культурна-мастацкага аддзелу Гарадзкой Управы Чыкага сп-ня Р. Фарына падзякавала Беларусам за ўдзел іх у розных артыстычных мерапрыемствах гораду. Па гэтым Юры Б. сказаў верш.

Галоўны і зьместоўны рэфэрат у беларускай мове прачытаў др. Вітаўт Рамук, у якім ён прыпомніў слухачом гістарычнае значэньне бе капомнага Акту 25-га Сакавіка.

Піяніст Гэнрык Янчэўскі выканаў кампазыцыю Міколы Куліковіча на тэму беларускіх народных песьняў. Пастар Алексы Гарбузюк сказаў малітву падзякі, па якой усе прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гымн.

За правядзеньне сьвяткаваньня належыцца гарачая падзяка Каардынацыйнаму Камітэту, які, незважаючы на перашкоды, стварачы тымі, каму не падабаецца супольная беларуская праца, патрапіў зарганізаваць такое прыгожае адзначэньне нашага народнага сьвята.

**А.Б.**

# ВІЗЫТ БІСКУПА ЎЛАДЗІМЕРА

У сярэдзіне травеня сёлета Біскуп Уладзімер Тарасэвіч наведаў з пастырскім візытам Лёндан (Ангельшчына). У нядзелю, прызначаную Каталіцкай Царквой на малітвы за сьвятарскае пакліканьне, патрэба новых сьвятароў была тэмай казані Уладыкі Уладзімера ў часе багаслужбы і на прыняцьці пасьля яе. Біскуп Уладзімер, хіратонія якога адбылася ў верасьні летась (гл. „Б-с" № 313), выказаў сваю вялікую радасьць тым, што ён быў прызначаны працягваць працу сьв. пам. Біскупа Часлава — не дзеля асабістых прычынаў, а дзеля таго, што прызначэньнем яго Сьвяты Пасад цяпер цьвёрда прызнаў статус Беларусаў як народу, які мае права славіць Бога на свой уласны лад і ў сваёй роднай мове.

Далей у сваёй казані Уладыка Уладзімер гаварыў пра цяжкое паладжэньне царквы ў савецкай Беларусі, дзе цяпер, сказаў ён, застаўся толькі адзін каталіцкі сьвятар, здольны адпраўляць багаслужбы ў беларускай мове.

Ад верасьня месяца (пачатак году паводле бізантыйскае традыцыі) Сьв. Літургія служыцца пабеларуску, заміж, як раней, пацаркоўнаславянску. У адным важным сэнсе, сказаў Біскуп Уладзімер, Лёндан быў паперадзе ягонага прыходу ў Чыкага, дзе, хоць сьвятар частку багаслужбы гворыць пабеларуску, харавыя сьпевы ўсё йшчэ ядуцца ў царкоўна-славянскай мове. У Лёндане а. Аляксандар Надсон, як перакладчык, і сп. Гай Пікарда, як кіраўнік хору, зрабілі вялікія намаганьні, каб уся багаслужба выконвалася пабеларуску.

Тэма пакліканьня новых сьвятароў была закранутая на прыняцьці ў гонар Уладыкі Уладзімера таксама дэклямацыяй верша „Прарок" Вінцука Адважнага (літаратурны псэўданім а. Язэпа Гэрмановіча, які шмат гадоў служыў у Беларускай Каталіцкай місіі ў Лёндане), адмысловa перакладзены да гэтае нагоды Верай Рыч.

Вітаючы Біскупа Уладзімера ад імя Англа-Беларускага Таварыства, праф. Джэймс Дынглі гаварыў пра радасьць, якую выклікала прызначэньне а. Уладзімера за біскупа як сярод ангельскіх, гэтак і беларускіх сяброў Таварыства — ды запрасіў Уладыку стацца адным з заступнікаў старшыні гэтае арганізацыі.

## ПРА БНР ПААНГЕЛЬСКУ

У сэрыі выданьняў „Бібліятэчка газэты 'Голас Радзімы'" выйшла ў ангельскім перакладзе з расейскае мовы кніжка (120 бб.) І. Коўкеля й М. Сташкевіча „Чаму не адбылася БНР?" Парасейску кніжка гэтая выйшла, у тэй-жа сэрыі, у 1980 годзе. Рэкамэндуючы ангельмоўнае выданьне сваім чытачом „Голас Радзімы (№ 16, IV.1984) піша:

„Гісторыя разьвіцьця беларускай сацыялістычнай дзяржавы да сённяшняга дня прадузята і груба фальсыфікуецца, скажаецца кучкай беларускіх буржуазных нацыяналістаў. Штогод яны адзначаюць так званы 'Акт 25 Сакавіка", якім у 1918 г. група буржуазных палітычных дзялкоў ... аб'явіла аб утварэньні Беларускай Народнай Рэспублікі".

Газэта піша, што кніжка была перакладзеная ў ангельскую мову, бо „суайчыньнікі выказалі шкадаваньне, што гэтую цікавую брашуру з-за няведаньня (расейскае — рэд. „Б-са") мовы ня змогуць прачытаць іх дзеці і ўнукі".

Ангельскае выданьне кніжкі разьлічанае, бадай, ня толькі на „дзяцей і ўнукаў" эміграантаў, а таксама й на палітычныя колы Амэрыкі. Недарма ў уступе да абодвых выданьняў, расейскага й ангельскага, выдаўцы ягоныя асуджаюць выступленьні ў Кангрэсе ЗША з падтрыманьнем ідэі незалежнае дэмакратычнае Беларусі.

## ПРА БЕЛАРУСКУЮ „НАЦЫЯНАЛІСТЫЧНУЮ ПРАПАГАНДУ"

Кніга пад заг. „Оружие обреченных", якая выйшла летась у Менску ў выдавецтве „Беларусь" пад рэд. доктара філязофскіх навукаў праф. Л.Ф. Яўменава, паводля газэты „Зьвязда" (13.III.1983) дае „грунтоўны крытычны разгляд розных рода буржуазных канцэпцыяў. Гэтыя пытаньні аналізуюцца з улікам зьместу і накіраванасьці нацыяналістычнай прапаганды супраць Беларускай ССР".

## „КАЛЯБАРАНЦТВА" Й САВЕЦКІЯ ДАКУМЭНТЫ

14 красавіка сёлета ў гор. Філядэльфіі (ЗША) адбылася нарада прадстаўнікоў нацыянальных групаў Амэрыкі, адвакатаў ды арганізацыі „Амэрыканцы за належны працэс". Былі разгледжаныя канкрэтныя дакумэнты, падсунутыя амэрыканскім судовым уладам савецкім Камітэтам Дзяржаўнае Бясьпекі (КДБ) з абвінавачаньнямі некаторых грамадзянаў Амэрыкі ў „калябаранцтве" зь Немцамі ў часе апошняе вайны. Спэцыялісты давялі хваліыўасьць абвінавачаньняў ды прадставілі вынікі свайго аналізу ў міністэрства юстыцыі ЗША. На нарадзе разглядаліся таксама дакумэнты, якія датычаць да Беларусаў і беларускае дзейнасьці падчас нямецкае акупацыі Беларусі.

## ДРАМАТЫЗАЦЫЯ ЛОФТУСАВАЕ КНІЖКІ

Выдаваная ў гор. Нью Брансьвік (штат Нью Джэрзы, ЗША) газэта „Стар Леджэр" (26.IV.84), падала, што паводля кнігі Джона Лофтуса „Беларускі сакрэт" будзе зробленая тэлевізійная сэрыя (драма), на якую закупленьня ўжо правы.

Лофтус выступаў з дакладам на тэму сваё кнігі на міжэтнічным фэстывалі, што ладзіўся Каледжам Самэрсэцкае Акругі ў штаце Нью Джэрзы. У фэстывалі бралі ўдзел таксама й мясцовыя Беларусы.

Інфармацыю пра Лофтусава выступленьне й апрацаваньне ягоных цьверджаньняў зь беларускага боку зьмясьціла газэта „Кур'ер Ньюз" (З.У.).

## КАНЕЦ ПЕРАДПЛАЧАНЫМ ПАЧКАМ У СССР

Паводля паведамленьняў, што зьявіліся ў заходнім друку на пачатку травеня сёлета, Савецкі Саюз пастанавіў спыніць з канцом ліпеня сёлета прыйманьне пачкаў, прысланых з вонкавага сьвету з аплочаным ужо мытам. Афіцыйная прычына спыненьня падаецца тая, што савецкая фірма Внешпосылторг, якая займалася перавозам пачкаў, несла грашовыя страты. У запраўднасьці-ж Савецкі Саюз (які даставаў ад гэтых пачкаў мілёнвыя прыбыткі ў цьвярдой валюце) пайшоў на гэты крок, каб ізаляваць яшчэ больш іншадумцаў ды сем'і палітычных зьняволеных, якім пасыланыя з-за мяжы дапамога ад сваякоў і дабрадзейных арганізацыяў у форме харчоў, вопраткі, мэдыкамэнтаў ды іншага. Цяпер жыхар Савецкага Саюзу будзе змушаны плаціць мыта сам. Але ў пераважнай бальшыні людзей ня будзе на гэта грошай.

# ЎГОДКІ АНГЛА-БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА

Беларусы гор. Манчэстэру, з удзелам Беларусаў Брадфарду й Лёндану, годна адзначылі ў нядзелю 29-га красавіка сёлета 30-я ўгодкі Англа- Беларускага Таварыства. У царкве Жыровіцкае Божае Маці Мітраф. Прат. а. Янка Абабурка адправіў багаслужбу, пасьля якое ў прыцаркоўнай залі адбылася акадэмія, прысьвечаная ўгодкам Таварыства.

Адчыніў акадэмію сп. Янка Міхалюк, старшыня галоўнае управы Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, ды прадставіў аўдыторыі старшыню Англа-Беларускага Таварыства праф. Джэймса Дынглі.

Праф. Дынглі адзначыў заслугу ЗБВБ у паўстаньні й дзейнасьці Таварыства. Каб ня было Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, сказаў ён, дык ня было-б і дасягненьняў Таварыства, у якіх важную ролю выконвае фінансавая дапамога Згуртаваньня.

Праф. Дынглі гаварыў аднак ня гэтулькі пра паўстаньне й дзейнасьць Таварыства, пра што беларускае грамадзтва даволі добра паінфармаванае, колькі пра патрэбу дакумантаваць нядаўную гісторыю.

Праф. Дынглі, які выкладае расейскую мову ў вышэйшых навучальных установах, а таксама ведае польскую й беларускую мовы, сказаў, што на Лёнданскім унівэрсытэце ёсьць праект выдаць гісторыю польскае эміграцыі ў Вялікабрытаніі. Дык чаму-ж ня выдаць і гісторыі беларускае эміграцыі? Гэта й ёсьць маёй мэтай, сказаў ён.

Прамоўца заклікаў да зьбіраньня матэр'ялу ад жывых яшчэ сёньня сьветкаў пра падзеі веаннага часу. Праф. Дынглі хоча напісаць аб падзеях тых часоў, як яно было ў запраўднасьці, а не як гэта апісаў аўтар кнігі „Беларускі сакрэт" Дж. Лофтус.

Сп. Міхалюк заклікаў прысутных падтрымаць справу выданьня праўдзівае гісторыі беларускае эміграцыі.

Праф. Дынглі паінфармаваў, што сп. Гай Пікарда працуе цяпер над кнігай аб паўстаньні й дзейнасьці Англа-Беларускага Таварыства.

Сп. Міхалюк падаў да ведама, што сп. Ул. Гінько скончыў сваю функцыю адміністратара Беларускага Дому ў Манчэстэры, якую ён шмат гадоў выконваў безь ніякае аплаты. Старшыня ЗБВБ склаў падзяку сп. Гінько ды перадаў для яго, як падарунак ад Згуртаваньня, гадзіньнік (сп. Гінька пры гэтым ня было, бо быў недзе выехаўшы на адпачынак). Сп. Міхалюк павітаў таксама старшыню мясцовага аддзелу ЗБВБ з нараджэньнем дачушкі Аляксандры. Пасьля гэтага адбылося прыняцьцё для ўдзельнікаў сьвяткаваньня, якое прайшло ў мілай атмасфэры. За зладжаньне прыняцьця належыцца шчыры дзякуй спадарству Надзі й Віктару Міхалюком.

**М. Стаўпіскі**

## „ЦЭНЗУРА Ў СЛАВЯНСКІМ СЬВЕЦЕ"

Дзьве беларускія кніжкі — „Спадчына" Янкі Купалы (выданьне газэты „Бацькаўшчына" для Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва) і „Дудка Беларуская" Францішка Багушэвіча (кракаўскае выданьне 1891 году) будуць паказаныя на выстаўцы „Цэнзура ў славянскім сьвеце", што адчыніцца 1 чырвеня сёлета ў Ньюёркскай Публічнай Бібліятэцы (5-я Авэню й 42-я вул.). „Цэнзура ў славянскім сьвеце" становіць частку шырэйшае выстаўкі — ў тэй-жа Бібліятэцы — „Цэнзура: 500 гадоў канфлікту". Выстаўка арганізаваная на адзначэньне 500-годзьдзя друку і працягвае да 23 жніўня сёлета.

У Савецкім Саюзе дасюль знаходзіцца пад забаронай больш за 70 паэтычных твораў і публіцыстычных артыкулаў Янкі Купалы.

## ГРЭЦКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

У выдавецтве Беларускае Дабрадзейнае Фундацыі Яна й Аліцыі Пятроўскіх выйшла першая зь двух частак „Клясычнага грэцка-беларускага слоўніка" (літары А—М), нанава апрацаванага Янам Пятроўскім. У кнізе (290 бб.) дадзены ўвод у грэцкую мову, альфабэт (абэцэду) і фанэтыку. Цана выданьня — 20 даляраў. Выпісваць можна, пішучы на адрас:

Byelorussian Charitable Educational Fund
1716 N. E. 7th Terrace
Gainesville, Fla. 32601

Выхад слоўніка — выдатная падзея ў беларускім культурным жыцьці. Сп. Я. Пятроўскі заслугоўвае за сваю самаахвярную працу на шчырую падзяку ад усіх, каму дарагая справа разьвіцьця беларускае культуры, і асабліва на грашовае падтрыманьне, паколькі выданьне слоўніка дорага каштуе й было фінансаванае сп-твам Пятроўскімі.

Добрыя водгукі на выхад слоўніка прыйшлі зь Менску й Беластоку. Пра выданьне грэцка-беларускага слоўніка ў Беларусі тымчасам ніхто афіцыйна й голасу не падаваў.

## ДАВЕДНІК НАЦЫЯНАЛЬНЫХ СЬВЯТАЎ

Усеамэрыканская Рэспубліканская Рада Групаў Этнічнае Спадчыны (National Republican Heritage Groups Council) Нацыянальнага Камітэту Рэспубліканскае партыі выдала даведнік угодкаў, адзначаных рознымі этнічнымі групамі Амэрыкі. Даведнік загалоўлены "Guide to Nationality Observances". Зь беларускіх угодкаў у даведніку адзначаныя: дзень сьмерці Кастуся Каліноўскага (10 сакавіка; правільна трэба — 22 сакавіка, бо 10-га — гэта паводля старога стылю); дзень Незалежнасьці Беларусі (25 сакавіка) ды ўгодкі Слуцкага Паўстаньня (27 лістапада).

## БЕЛАРУСКАЕ ПЫТАНЬНЕ Й ПАЛЯКІ

У зборніку Інстытуту гісторыі Польскае Акадэміі Навукаў Studia z dziejów ZSSR i Europy Środkowej, том XIX (бб. 131-158), зьмешчаны артыкул Юркі Туронка „Беларускае пытаньне ў палітыцы лёнданскага лягеру (1941-1944)". У канцы артыкулу, у якім аўтар робіць шмат спасылак на архіўныя й дакумэнтальныя выданьні, а ў тым ліку й некаторыя беларускія кнігі, выдадзеныя на эміграцыі (І. Касяка, Я. Малецкага, В. Пануцэвіча), зьмешчанае (пасьпольску й паангельску) рэзюмэ. Вось ягоны поўны тэкст:

„У гадох Другое сусьветнае вайны польскі эміграцыйны ўрад імкнуўся аднавіць даваенную ўсходнюю мяжу ды зноў улучыць тэрыторыю Заходняе Беларусі ў склад Польшчы. Гэтая пазыцыя была дырэктыўнай для падпольных органаў Польшчы: Дэлегатуры ўраду і Галоўнага камандаваньня Арміі Краёвай. Бальшыня палітычных і ваенных груповак ацэньвала яе крытычна. уважаючы ўсходнюю мяжу за крыніцу сталых канфліктаў, і высоўваючы розныя альтэрнатыўныя канцэпцыі разьвязаньня беларускага пытаньня (анэксіі, фэдэрацыі ці аўтаноміі).

„Супраць пазыцыі польскага ўраду ў пытаньні ўсходняе мяжы выступалі беларускія нацыяналістычныя групоўкі, якія разьлічвалі на стварэньне па вайне асобнае беларускае дзяржавы ў этнічных межах. Спробу пераадолець супярэчнасьці ў тэрытарыяльным пытаньні й наладзіць супрацоўніцтва з польскім эміграцыйным урадам зрабіла ў 1941 г. Партыя Беларускіх Нацыяналістаў (ПБН). Прыпушчаючы, што ў паваенай Эўропе заходнія саюзьнікі адыграюць вырашальную ролю ў арганізацыі паваеннага парадку ў Эўропе ПБН разьлічвала, што польскі ўрад падтрымае дамаганьне незалежнасьці Беларусі ды паставіць беларускае пытаньне на міжнародным форуме. Гэтыя пытаньні былі тэмай перамоваў з прадстаўнікамі Галоўнага Камандаваньня АК, якія ў 1942-1943 гг. адбыліся ў Менску, Варшаве й Вільні. Аднак яны не зьмянілі пазыцыі польскага ўраду.

„Увесну 1944 г. спробу наладзіць супрацоўніцтва з польскім урадам зрабіў таксама Астроўскі — прэзыдэнт створанае Немцамі Беларускае Цэнтральнае Рады. Хоць гэтая ініцыятыва зацікавіла Галоўнае камандаваньне АК, лёнданскі ўрад і ягоная Дэлегатура Краёва ігнаравалі яе, паколькі мэтай усіх перамоваў зь Беларусамі было запасьціся іхным падтрыманьнем у пытаньні тэрытарыяльных канцэпцыяў польскага ўраду".

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце газэту Беларусаў „БЕЛАРУС"**

## ФЭДЭРАЛЬНАЯ РАДА БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ У АЎСТРАЛІІ

### ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

**А Б В Е С Т К А**

# 6-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ У АЎСТРАЛІІ

адбудзецца ў Адэляйдзе, Паўдзённая Аўстралія

**ад 5-га да 9-га студзеня 1985 г.**

Усіх сяброў Фэдэральнае Рады, усё беларускае грамадзтва, мясцовых і замежных гасьцей, САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ!!!

Закватэраваньне ўсім удзельнікам Сустрэчы будзе забясьпечанае. У гэтай справе зьвяртацца, калі ласка, да

Mr. J. Rollson, Pres. O. C.
2/9 Anglers Court
West Lakes Shore, 5020 S. A., Australia
(Phone, after arrival in Adelaide: /08/491256)

**Праграма Сустрэчы:**

**Сыбота** (5. I) — Прыбыцьцё й закватэраваньне.

**Нядзеля** (6. I.) — 10:00 гадз. раніцы—пярэдадзень Раства Хрыстовага. багаслужба ў мясцовай Беларускай Праваслаўнай Царкве.
2:00 гадз. п/п — адкрыцьцё Сустрэчы, рэфэрат у залі пры царкве.
7:00 гадз. увечары — вячэрня, супольная Куцьця ў царкоўнай залі.

**Панядзелак** (7. I.) — 10:00 гадз. раніцы — калядная багаслужба.
4:00 гадз. п/п — канцэрт і пачастунак у залі на 5 Ўольтэр Ст., Табэртон.

**Аўторак** (8. I.) — Другі дзень Калядаў, у Байнайтэн парку пікнік на ўвесь дзень.

**Серада** (9. I.) — Трэйці дзень Калядаў, нарады 6-га зьезду ФРБАА. Пачатак а 10:00 гадз. ўраньні. Парадак дня ўстанаўляе ВК ФР.
Увечары—разьвітальны сяброўскі пачастунак (час будзе паданы на пікніку або раней Арг. К-там).

**Арганізацыйны Камітэт:**

**Я. Рольсан — старшыня, К. Станкевіч — сакратар, М. Бурнос — сябра.**

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ ТРОЙЦЫ

У нядзелю 5-га травеня сёлета ў шатляндзкай царкве ў Мэльбурне, як і папярэднімі гадамі, парафія Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ўзяла актыўны ўдзел у сьвяткаваньні Тройцы, якое ладзіў Віктарыянскі Камітэт 22 хрысьціянскіх цэркваў (іміграцкіх). Да Камітэту належыць і парафія БАПЦ у Мэльбурне. Сьвяткаваньне ладзілася загадзя, каб у дзень сьвята 10 чырвеня была гатовая тэлевізійная перадача аб сьвяткаваньні.

Урачыстасьць складалася з працэсіі сьвятароў, якія прадстаўлялі свае парафіі; супольнага пяяньня малітваў (з выдрукаваных праграмаў); чытаньня малітваў і выконваньня рэлігійных песьняў салістамі й хорамі паасобных нацыянальнасьцяў у іхных мовах. Выступаў таксама й беларускі царкоўны хор, які, трэба адзначыць, добра пяяў і прыгожа выглядаў (дзяўчаты ў нацыянальнай вопратцы). Хор выканаў „Благаславі". У перапынках праграму дапаўняла аркестра Арміі Збаўленьня.

Уся імпрэза была сьфільмаваная тэлевізійнай кампаніяй ЭнБіСі й будзе паказаная на тэлябачаньні на Тройцу 10-га чырвеня сёлета.

Урачыстасьць закончылася пачастункам у прыцаркоўнай залі мясцовай царквы.

З прыемнасьцяй трэба адцеміць, што гэтае супольнае сьвяткаваньне Тройцы — дадатнае імкненьне да зьбліжэньня хрысьціянскіх цэркваў і большага адзінства, так патрэбнага ў нашым часе закалотаў і рэлігійных спрэчак.

**М.Н.**

## ПРАБЛЕМА ЗЬ „БЕЛАРУСАМ" У АЎСТРАЛІІ

Мэльбурнская газэта „Эйдж" (7. IV.84) падала, што ў Канбэры, сталіцы Аўстраліі, да будынку савецкага пасольства прыехаў на чатырохкалёсым трактары „Беларус" 39-гадовы фармэр Грэем Робэртсон і сказаў, што ён не ад'едзецца, пакуль ягоны трактар ня будзе зрамантаваны.

Свой трактар „Беларус-7000" Робэртсон купіў у сьнежні 1980 г. за 44 тысячы даляраў і ад'езьдзіў на ім 670 гадзінаў. Ад чырвеня 1982 г., кажа Робэртсон, трактар не працаваў, бо ў ім заеўся матор пасьля таго як папсавалася аліўная помпа. На кабіне свайго трактара Робэртсон сьпісаў усе рамонты, якія яму давялося рабіць раней: паламалася была асадка кабіны, папсавалася перадача, не працаваў кандыцыянер паветра.

Савецкі гандлёвы прадстаўнік у Сыднэі Аляксей Грымянкоў сказаў, што Робэртсону прапанавалася дапамога, ад якое Робэртсон аднак адмовіўся, заявіўшы, што ён будзе дамагацца праз савецкае пасольства ў Канбэры звароту яму грошай, якія ён заплаціў за трактар.

Паводля былога працаўніка Белсельгастэхнікі, які жыве цяпер у Нью Ёрку, трактар „Беларус" карыстаецца вельмі добрай рэпутацыяй сярод гаспадарнікаў па цэлым Савецкім Саюзе. Кожны старшыня калгасу, кажа былы працаўнік Белсельгастэхнікі, калі ў яго папытацца, які ён хацеў бы найлепш мець трактар, назаве менскага „Беларуса".

## *З ЖЫЦЬЦЯ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ*

Месяц сакавік быў сёлета даволі актыўны ў беларускай калёніі Кліўленду. Кожнае нядзелі адбываліся розныя імпрэзы ці зборкі.

### ЗАПУСКІ

4 сакавіка парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе адзначыла дзень запускаў. Традыцыя гэтая ўвайшла ў жыцьцё даўно, пачаткі яе прынесеныя з Бацькаўшчыны. Праграма заўсёды пачынаецца адразу па сьв. Літургіі вячэрняй, у час якое выконваюцца посныя напевы. Адразу па багаслужбе ў царкоўнай залі адбыўся супольны абед, мэню якога складалася з розных малочных страваў, а таксама посных. У часе абеду шмат якія ўдзельнікі абменьваліся інфармацыяй пра традыцыі запускаў у розных ваколіцах Беларусі.

### НЯДЗЕЛЯ ПРАВАСЛАЎЯ

11 сакавіка ,у першую нядзелю посту, парафія Жыровіцкае Божае Маці адзначыла царкоўнае сьвята „Нядзеля праваслаўя". Сьвята гэтае тут у Кліўленьдзе сярод праваслаўных цэркваў абыходзіцца больш урачыста і шмат якія цэрквы стараюцца сьвяткаваць супольна. Сьвята складаецца зь вячэрні, калі сьвятар з прыслужнікамі выносяць ікону на сярэдзіну царквы і чытаецца Сынодыктон, у якім успамінаецца, што на працягу доўгіх гадоў адбывалася вялікае нішчэньне іконаў. Пазьней было пастаноўлена на Саборах прызнаць пашану іконам, што лічыцца гістарычнай перамогай праваслаўя. У канцы службы вернікі падыходзілі й цалавалі іконы. Дадаткам да гэтага сьвята сярод усіх цэркваў увайшло ў традыцыю рабіць пачастунак. У сёлетняй супольнай вячэры ўзяло ўдзел каля 60 асобаў.

**СЬВ. † ПАМ.**

**ЛІДЗІЯ КАНДЫБОВІЧ**

7-га красавіка 1984 г. на 89-м годзе жыцьця памерла Лідзія Кандыбовіч, былая настаўніца. Пакінула па сабе ў вялікай жалсбе і смутку дачок, унукаў, праўнукаў, зяцёў і родзічаў. Вечная памяць Табе, нашая любая і дарагая.

**Дочкі Лена і Іра**

**СЬВ. † ПАМ.**

**ВЕРА КАЧАН**

**(21.IX.1891 — 14.IV.1984)**

Па даўгой хваробе адыйшла ў вечнасьць у Сыднэі (Аўстралія) й пахаваная на могільніку Роквуд, аб чым з сумам паведамляюць мэльбурнскія прыяцелі Нябожчыцы.
Няхай Усемагутны Бог дасьць ёй вечны супачынак.

## СЛОВА ПРА МАТКУ

Гады чатыры таму, у садзе, на прадмесьці Сыднэю ў Аўстраліі, сядзеў я насупраць старэнькай, надта кволай з выгляду жанчыны. А яна, ня спускаючы зь мяне вачэй, уважна прыглядаючыся да мяне праз акуляры, гаварыла:

— Ведаеш, Кастусь, мы-ж цябе як ахрысьцілі, дык ледзь ня згубілі ў сьнезе падарозе дадому...

Такога я яшчэ ня чуў. Ведаю й памятаю, што мяне, малога, калі яшчэ розьніцы між пчоламі й мухамі ня ведаў, ледзь пчолы не заелі. А гэтта яшчэ што такое? Жартуе яна?

А Вера, мая хрышчоная маці, прадаўжала:

— Быў лістапад, дарогі ў гурбах сьнегу. Сані нашы наляцелі, відаць, на нейкую ўхабіну. А кум шыбка гнаў каня. І брычка як стукнула аб нешта ў ухабіне, дык, Божа мой! Ты быў у мяме захутаны ў адзяяла, а тут, гляджу, ужо цябе няма. Неяк вышмыкнуў і паляцеў у сьнег.

Я не ведаў, ці пачаць рагатаць, ці што...

— Ну й крычу куму, што я цябе згубіла. Той спыніў каня й мы, давай, шукаць цябе. Можа-б і не знайшлі, але-ж надта моцна ты крычаў, дык раскапалі той сьнег ды выцягнулі цябе, хоць і мокранькага, але жывога.

— Дык вы-ж хіба не адны з царквы ехалі? — пытаю.

— Ды не, некалькі хурманак. Усе шукалі.

І яна гаварыла гэта сур'ёзна. Па зьбарожджаным зморшчынамі твары гуляла лагодная ўсьмешка.

— Ты, матка, гэта, мусіць, жартуеш?

— Ды не. От каб кум быў жывы, дык ён пацьвердзіў-бы.

Я больш не распытваў у яе. Так і сяньня ня ведаю, ці запраўды яна ў той лістападаўскі дзень мяне згубіла была...

Вера Качан, жонка Антона, маці Аркадзя, прайшла даўгі й цікавы жыцьцёвы шлях. Яе памятаю, як строгую й добрую матку. Цукеркаў і пячэньня, калі прыяжджалі да нас улетку ў госьці, навязе, праверыць ці ў мяне ногі чыстыя, а калі не, дык за вуха накруціць, што аж смыліць.

Вестку пра яе адыход у вечнасьць я атрымаў па тэлефоне і, памятаю, прыняў гэта за нармальнасьць, без хваляваньня. Да такога веку дажыць усё-ж ня шмат каму дадзена. І памятаю, у гэны час маіх адведзінаў яе й сям'і ейнага сына ў Сыднэі, яна, гэтая кволая жанчына, пусьціла сьлязу й казала: — А чаму-ж мяне Бог не бярэ?

Дачка высокага чыгуначнага ўрадніка з часоў царскай Расеі, яна атрымала асьвету ў „школе благародных дзевіц" у Беластоку. У часе першай вайны засталася сіратой, а выйшла замуж за Антона Качана, тады настаўніка гімназіі. Жылі пэўны час у вёсцы ля Докшыц, а пасьля трымалі малую краму пры станцыі ў Пархвенаве.

Высокаадукаваная, начытаная, глыбока веруючая, яна старалася, каб і сын атрымаў добрую адукацыю. Вайна апранула Аркадзя ў мундзір беларускага афіцэра, і ён большую частку вайны змагаўся з бальшавіцкімі антынароднымі „мсьціўцамі". Як гэтая чулая, спагадлівая й добрая жанчына павінна была хвалявацца, калі вайна ганяла сына па лясох, а хрышчоніка таксама выкінула далёка з дому?

Гэтая жанчына мела на мяне вельмі добратворны ўплыў, і калі доля ззамоладу адабрала ў мяне родную матку, Вера яе замяніла. Чытач мне выбачыць, што на гэтым скончу, бо далей не магу пісаць бязь сьлёз. А я ня люблю раськісаць.

Вечная Табе памяць, добрая, мілая, шчодрая Мама! Да сустрэчы ў лепшым сьвеце!

**К. Акула**

## СЬВ. † ПАМ. ЯН КАРПЕЙКА-КАРПІНСКІ

16-га красавіка 1984 г. Ян Карпейка-Карпінскі адыйшоў ад нас на вечны супакой. Нябожчык нарадзіўся 19-га сакавіка 1904 г. ў вёсцы Асташын Любчанскай гміны Навагрудзкага павету. За часамі Польшчы працаваў пісарам у Любчанскай гміне. Ваенныя падзеі 2-ой сусьветнай вайны закінулі яго ў Нямеччыну. У 1949 г. ягоная цётка запрасіла Яна у Амэрыку. Нябожчык жыў у шмат якіх гарадох Амэрыкі. Апошнія 20 год пражыў у Кліўленьдзе, амаль два гады — у рэсорце „Полацак". Нябожчык ахвяраваў на „Полацак" 3000 даляраў. Быў парафіянінам Жыровіцкае Маці Божае, не належаў ні да якіх беларускіх арганізацыяў, аднак лічыў сябе Беларусам і жыў між Беларусаў. Па ім было адслужана адпяваньне ў царкве Жыровіцкае Маці Божае. Цела ягонае было перавезена ў Нью-Брансьвік, штат Нью Джэрзы, і пахавана на беларускім магільніку.

Няхай яму будзе вечная памяць!

**Сурадзіч А.С.**

## МІКРАФІЛЬМ ГАЗ. „БЕЛАРУС"

У Ньюёркаўскай Публічнай Бібліятэцы, як паінфармавала сп-ня Зора Кіпель, працаўніца Славянскага аддзелу гэтае бібліятэкі, можна набыць за цану 52 даляры 50 цэнтаў мікрафільм газэты „Беларус" за пэрыяд ад 1950-га па 1982-гі год улучна. Мікрафільм на дзьвюх шпульках, агульнай даўжынёй 150 футаў (46 мэтраў). Пісаць і чэк выпісваць трэба на Ньюёркаўскую Публічную Бібліятэку:

The NYPL
Photographic Service
5th Avenue and 42 St.
New York. N.Y. 10018
U.S.A.

Пацікаўцеся, ці Вашая мясцовая публічная бібліятэка не захацела-б таксама набыць мікрафільм нашай газэты, у якой, як ведаеце, матар'ялы зьмяшчаюцца таксама й паангельску.

### ПАТРЭБНАЯ ДАПАМОГА

Рэдакцыя газэты „Беларус" мае колькі выдавецкіх праектаў. Рыхтуецца выданьне брашураў „Праваслаўная Царква ў Беластоцкім Краі і беларуская мова ў ёй", „Роздум ля параднай брамы" (самвыдавецкая паэма зь Беларусі) ды іншае. Але на гэта патрабуюцца грошы, якіх у выдавецтве вельмі мала.

Калі Вам блізкая да сэрца беларуская выдавецкая справа, шукайце спосабаў памагчы нам. Зрабіць гэта можна ня толькі праз сваю фінансавую шчодрасьць, але таксама й знаходзячы новых падпішчыкаў, папярэдняй падпіскай на выданьні або арганізаваньнем збору ахвяраў на выдавецтва „Беларус" пры розных грамадзкіх і таварыскіх нагодах. Бо калі Вы не паможаце беларускаму друкаванаму слову, дык хто гэта зробіць? З падзякаю й прывітаньнем — **Рэдакцыя „Беларуса"**.

## СЬВ. ПАМ. ГАЛІНА ОРСА

У пятніцу 6-га красавіка сёлета сумная вестка мігам абляцела ньюёркаўскую беларускую калёнію: Галіна Орса ня жыве. І хоць сьмерць ня была нечаканай, бо невылячальная хвароба (рак лёгкіх) паглыблялася з дня на дзень, то ўсё-ж цяжка было дапусьціць думку аб сьмерці, асабліва тым, што сустракаліся пры ложку хворае, што сьмерць прыдзе так хутка.

Сьв. пам. Галіна Орса, ураджэнка Навагрудчыны, дачка др. Аляксандра й Натальлі Орсаў, ведамых беларускіх грамадзка-палітычных дзеячоў, арганізатараў беларускага школьніцтва на Бацькаўшчыне й на эміграцыі, вынесла з дому стараннае ўзгадаваньне й любасьць да Бацькаўшчыны-Беларусі, да людзей наагул. Яна была заўсёды гатовая памагчы ў патрэбе. Гэтыя рысы характару здабылі ёй прызнаньне й пашану ў нашай ньюёркаўскай калёніі й за ейнымі межамі: Галіну ўсе любілі. І ня дзіва, што пахаваньне яе было адным з найбольш шматлюдных беларускіх паховінаў у Нью Ёрку. Кожны хто знаў Нябожчыцу, пастараўся аддаць ёй пашану. У ліку ўдзельнікаў пахаваньня былі ейныя землякі й калегі з Канады, із штатаў Фларыда, Агаё, Мічыган.

Сьв. пам. Галіна Орса з маладых год брала актыўны ўдзел у працы беларускіх арганізацыяў. На працягу колькіх кадэнцыяў выконвала функцыю сакратаркі галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, была ў управе ньюёркаўскага аддзелу БАЗА, арганізацыі моладзі, брала ўдзел у нашых харавых ансамблях і царкоўных хорах БАП Царквы ў Нью Ёрку. Хіба ня было беларускага зьезду ці сьвяткаваньня, у якім Галіна ня выконвала-б нейкае функцыі. Толькі ў сёлетнім сьвяткаваньні 66-х угодкаў Сакавіковага Акту не змагла яна ўзяць удзелу, а разам із сваёй маці пераслала прывітаньні ўдзельнікам урачыстасьці.

Паховіны сьв. пам. Галіны Орса адбыліся ў панядзелак 9-га красавіка на беларускім магільніку ў Іст Брансьвіку. Абрад пахаваньня ў царкве Жыровіцкае Маці Божае ў Гайленд Парку й на могілках выканаў а. Аляксандар Яноўскі. Разьвітальнае слова над магілай сказаў А. Шукелайць, выказаўшы спачуваньне маці й сваяком Нябожчыцы ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Разьвіталіся з Галінай пад гукі песьні „Сьпі пад курганам гэрояў". Традыцыйным кіданьнем кветак і жменяў зямлі на дамавіну паховіны закончыліся. Спачыла Галіна поруч із сваім бацькам ,якому прыгожы помнік паставілі вучні ягоныя.

На памінальным абедзе ў залі царквы Жыровіцкае Маці Божае ў Гайленд Парку ўспамінамі пра Нябожчыцу падзяліліся Старшыня Рады БНР др. Я. Сажыч, старшыня аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзы сп. П. Кажура, сп. Ул. Русак і др. Л. Трусэвіч.

На закачэньне памінкаў др. Ала Орса-Рамана, сястра Нябожчыцы, падзякавала ад імя сям'і а. Аляксандру ды сп-тву Ганьне й Уладзімеру Русаком за дапамогу сям'і ў часе Галінінай хваробы ды ўсім удзельнікам пахавальнае ўрачыстасьці.

Вечная памяць, Дарагая Галіна.
Няхай Табе лёгкай будзе Амэрыканская Зямля.

**А. Ш.**

**BIEŁARUS**

Monthly. Published by the Byelorussian-American Association, Inc., P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431. Price per copy: $1.25, subscription $12.00 per year.

## PEACE THROUGH STRENGTH RESOLUTION

The Byelorussian-American Association and the Association of Byelorussian-American Veterans in America are among the 127 national organizations which have expressed support for the Peace Through Strength Resolution (Senate Concurrent Resolution 133) co-sponsored by 54 Senators from both parties. The Resolution calls for the adoption of a United States strategy of peace through strength.

President Reagan, 195 members of the House of Representatives, and 13 state legislatures have also endorsed this Resolution.

Senator John Tower, Chairman of the Senate Committee on the Armed Services, in his letter of May 4, 1984, to Mr. Anton Shukieloyts, national chairman of the Byelorussian-American Association, invited the BAA "to cooperate in the development of a national strategy for the United States" to reach, among others, the following goals set by the Resolution:

"to inspire, focus, and unite the national will and determination to achieve peace and freedom,

"to achieve overall military and technological superiority over the Soviet Union,

"to pursue positive non-military means to roll back the growth of Communism, and

"to help our allies and other non-Communist countries defend themselves against Communist aggression."

In his letter to Mr. Shukieloyts Senator Tower wrote:

"I have asked the American Security Council (ASC) Foundation, as the educational coordinator of the Coalition for Peace Through Strength, to gather advice from Members of Congress, the Administration, think tanks, universities, labor, business and religious and community leaders.

"A special panel of experts will then review and synthesize the suggestions into a coherent book-length draft.

"This draft will then be circulated to all participants for their review and comments. The draft will then be revised to reflect the additional suggestions which have been received.

"President Reagan has committed his administration to cooperate fully with the ASC Foundation in this project.

"If you cooperate in this effort, you will receive credit for your participation. However, it will be made clear that each participant does not necessarily support every position taken in the final draft."

## OUST BYELORUSSIA FROM THE U.N.?

Congressman ("for All Alaska") Don Young in a letter to his congressional colleagues of March 1, 1984, said that he "recently introduced legislation which would correct an inequity in the voting strength of the U.S.S.R. in the United Nations that has existed since the U.N. was established in 1945." "The admission of Byelorussia and the Ukraine into the world body as free and independent states," said Mr. Young, "is an historical anomaly that must not be allowed to persist."

Further in his letter the Congressman stated:

"It is a blatant misnomer to refer to the Ukraine and Byelorussia as free and sovereign states. They relate to the U.S.S.R. in roughly the same way that Florida and California relate to the United States. They form integral parts of the Soviet empire and exercise no self-determination in the conduct of diplomacy. Their voting records have been identical with the Soviet Union's over the past several years."

The Resolution Congressman Young is sponsoring reads as follows:

Whereas the Charter of the United Nations specifies that the United Nations shall be composed of "states";

Whereas the Byelorussian Soviet Socialist Republic and the Ukrainian Soviet Socialist Republic are not "states" incorporating sovereignty and independence, the criteria for all other nation-states in the United Nations; and

Whereas the above-noted "Republics" have not established, nor maintained separate, sovereign diplomatic relations with any other sovereign state since 1920: Now, therefore, be it

**Resolved**, That it is the sense of the House of Representatives that the President, acting through the United States delegation to the United Nations, should take such steps as may be necessary to bring before the General Assembly of the United Nations the question of the eligibility of the Byelorussian Soviet Socialist Republic and the Ukrainian Soviet Socialist Republic for membership in the United Nations and seek their expulsion.

The Byelorussian-American Republican Federation reacting to Mr. Young's move on March 3, 1984, issued an appeal for "action by all." In the statement, signed by the Federation's chairman, W. Melianovich, the following points are made:

1. To remove Byelorussia and Ukraine from the U.N. would be a blunder on the part of the United States.

2. The U.S. Government should seek ways to exchange ambassadors with the Byelorussian and Ukrainian S.S.R.s.

3. Congressman Young should encourage greater independence for the non-Russian republics of the Soviet Union. His present action would only insure **greater** Russian control of Byelorussia and Ukraine.

4. Mr. Young is wrong in comparing Byelorussia and Ukraine to Florida and California. The Union republics in the U.S.S.R. are **countries** that once were free and independent, having different languages, religions, and cultures.

5. Congressman Young seems to be ignorant of East European history and politics, and of the aspirations of the captive nations within the Soviet Empire.

The Byelorussian-American Republican Federation urges everyone to write to Congressman Young referring to House Resolution 448. Mr. Young's office in the capitol is at the following address:

Congressman Don Young
2331 Rayburn Building
Washington, D.C. 20515
Tel. (202) 225-5765

### SUPPORT FOR BYELORUSSIAN-LANGUAGE BROADCASTS

New York Congressman Mario Biaggi supports the introduction of Byelorussian-language broadcasts into the Voice of America. Replying to Mr. Anton Shukieloyts, Mr. Biaggi wrote (May 21, 1984):

"As one who has been a long-time supporter of human rights and self-determination in Byelorussia, I recognize the importance of Byelorussian-language broadcasts and the growing need for the Voice of America to include these broadcasts in its programming... You can be assured that I will continue to support efforts to ensure the recognition of basic human rights in Byelorussia and the introduction of Byelorussian-language broadcasts into Voice of America programming."

### OLGA KORBUT LOOKS TO 1988 OLYMPICS

According to **Newsweek** (April 23, 1984, p. 14), Olga Korbut, the darling of the 1972 Munich Olympics, now 28, is preparing herself for Olympic competition, possibly in Seoul in 1988, as an equestrienne (horseback rider).

Olga is married to Leanid Bartkievich, a former member of the Piesniary rock group and now an aspiring film-director. The Bartkieviches live in Miensk and have a five-year-old son, Richard.

"Korbut," says **Newsweek** ,"keeps in touch with her past by coaching and scouting for the Gymnastics Federation of Belorussia, her native republic."

### КУПАЛЬСКАЯ ВЕЧАРЫНА

У Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры адбудзецца „Купальская Вечарына" ў **сыботу 23-га чырвеня** (пачатак а 8-й гадзіне ўвечары). Вечарыну ладзіць Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі й запрашае ўсіх да ўдзелу. Будзе багаты буфэт. Уступ: 7 дал. ад асобы, ад студэнтаў — 4 дал.

### KUPALLE

The Byelorussian-American Youth Organization invites you to celebrate the traditional night of Kupalle with us on **Saturday June 23** at the Byelorussian Community Center in South River, N.J. Festivities begin at 8 PM and include live band, D.J., cash bar and buffet. Admission: $7 — Adult and $4 — Student. Bring a friend!

### COMMISSION ON CAPTIVE NATION HISTORY

The Office of the Governor of New Jersey, the Hon. Thomas H. Kean has issued the following release on April 11, 1984:

Governor Thomas H. Kean today signed an Executive Order establishing a 20-member Governor's Commission on Eastern European and Captive Nation History to conduct a study of public school curricula dealing with the history of the peoples of Eastern Europe.

The Commission will consist of 18 public members to be appointed by the Governor, along with the Commissioner of Education and the Director of the Office of Ethnic Affairs.

The public members are to be representatives of the various ethnic groups of Eastern Europe, nationalities existing within the Soviet Union, other captive nations, historians, and educators.

"Unfortunately, there have been instances in which the history of this area of the world has not been presented accurately," Kean said. "The circumstances surrounding the nations and the peoples living under Soviet oppression should be an integral part of the public school curriculum in New Jersey and it should be presented fairly and accurately."

The Governor said the Commission would be authorized to carry out a study of history courses, textbooks, and other materials used in the public schools to assure their veracity and accuracy.

"Just as we have taken steps to assure that the history of the Holocaust is taught in our public schools, so must we take steps to assure that the history of the captive nations is taught as well," Kean said. "The story of the millions of people living under Soviet oppression must be told as a part of history and it must be told accurately."

The Commission is to submit its report and recommendations to the Governor by January 1, 1986.

Those interested in the matter should contact Mr. Carl Golden in Trenton, New Jersey, at the following telephone number: (609) 292-6000, ext. 285.

### DEVOTED TO KUPALA AND KOLAS

The latest issue of **The Journal of Byelorussian Studies** (vol. V, No. 2 — Year XVIII, 1982), published by the Anglo-Byelorussian Society (39 Holden Road, London N12 8HS, England), contains the papers of the seminar marking the Kupała-Kołas birth centenary that was held in London on October 9, 1982.

The volume's editor, Mr. Peter Mayo, presents the contents of the publication in the following way:

"Professor Antony Adamovič (in his paper, "The Kupała-Kolas Century 1882-1982") explores this theme, linking it to the cultural awakening of the Byelorussian people, and more than that, to the history of the Byelorussian national movement... In his analysis of the romantic elements in Kołas' **Symon-muzyka** Professor Barszczewski draws on the three versions of the poem and discusses the portrayal of nature and music, love, and national and social questions in this most lyrical of Kołas' masterpieces. Arnold McMillin's account, accompanied by illustrations of the Kupała and Kołas manuscripts and marginalia held by the Francis Skaryna Library, provides an insight into the textual history and creative process behind some of the poets' works, as well as introducing us to hitherto unpublished poem by Kupała. Finally, we see Kupała and Kołas from a rather different angle through the eyes of the Byelorussian artist Barys Zaborau, who describes his approach to the task of illustrating Kołas' **Symon-muzyka** and a selection of Kupała's lyrics."

### „БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ" (№ 5(44), 1984

Нумар прысьвечаны кампазытару й музычнаму дзеячу Міколу Куліковічу (1892-1969). У нумары — ноты й словы песьні Арсеньневае-Куліковіча „У гушчарах" ды артыкулы:

Аўген Калубовіч — „Мікола Шчаглоў (Куліковіч)"; Алесь Карповіч — „Памяці Міколы Шчаглова (Куліковіча); Р. Семашкевіч — — „Часопіс ‚Гоман', Браніслаў Эпімах-Шыпіла і яго ‚Беларуская Хрэстаматыя'" (працяг); Міхась Белямук — „Панёманская загадка" (працяг); Васіль Сініца — „Маё мястэчка" (працяг); Міхась Белямук — „Юры (Георгій) Штыхаў"; урывак раману Ўладзімера Глыбіннага „Вялікія дарогі"; верш Генадзя Зотава „Асьліная прапанова"; прымаўкі, выслоўі й гумар. Часапіс (82 б.б.) ілюстраваны, з каляровай укладкай чатырох народных вузораў да вышываньня падушак, распрацаваных Чаславам Будзкам. кам.

З часапісам рассылаецца дадатак „Думкі й пагляды" №5.

### МОЖНА ВЫПІСАЦЬ

**зь Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**

BINiM
230 Springfield Avenue
Rutherford, N.J. 07070

**Янка Купала.** Спадчына. Выбар паэзіі. Нью Ёрк-Мюнхэн, выд. „Бацькаўшчына", 1955. 497 б. .......... дал. 30.00

**Янка Купала.** Раскіданае гняздо. Мюнхэн, выд. „Бацькаўшчына" 1953. 74 б. .......... 5.00

**Янка Купала.** Тутэйшыя. Мюнхэн, выд. „Бацькаўшчына", 1953. 84 б. .......... 5.00

**Якуб Колас.** Новая зямля. Паэма. Мюнхэн-Нью Ёрк, БІНіМ і выд. „Бацькаўшчына", 1952. 246 б. .......... 10.00

**Якуб Колас.** Сымон Музыка. Паэма. Мюнхэн, выд. „Бацькаўшчына", 1955. 214 б. ...... 15.00

**Алесь Гарун.** Матчын дар. Нью Ёрк-Мюнхэн, БІНіМ, 1962. 270 б. .......... 10.00

**Максім Багдановіч.** Вянок паэтычнае спадчыны. Нью-Ёрк-Мюнхэн, БІНіМ-„Бацькаўшчына", 1960. 294 б. .......... 10.00

**Аўген Калубовіч**, укладальнік і рэдактар. Янка Купала і Якуб Колас. Вянок успамінаў пра іх. ЗША, 1982. 81 б. .......... 5.00

**Алесь Салавей.** Нятускная краса. Збор твораў. Нью Ёрк-Мэльбурн, БІНіМ, 1982. 373 б. .... 20.00

**Я. Запруднік і Т. Э. Бэрд.** Паўстаньне на Беларусі 1863 году: „Мужыцкая Праўда" й лісты „з-пад шыбеніцы". Тэксты й камэнтары. Нью Ёрк. Выданьне Фундацыі ймя Пётры Крэчэўскага, 1980. 70 б. ...... 5.00

**Васіль Быкаў.** Мёртвым не баліць. Аповесьць. ЗША, 1965. 178 б. .......... 10.00

**Натальля Арсеньнева.** Між берагамі. Выбар паэзіі. Нью Ёрк-Таронта, БІНіМ, 1979. 392 б. 20.00

**Аўген Калубовіч.** Мова ў гісторыі беларускага пісьменства. Мюнхэн-Лёндан, 1974-1978. 2 часткі, 238 б. .......... 10.00

**Vitaut Kipel**. Byelorussian Americans and their communities of Cleveland. Cleveland, Cleveland State University, 1982. 184 p. 10.00

**Valentina Pashkievich.** Fundamental Byelorussian. Book 1, Book 2. Toronto, Byelorussian-Canadian Coordinating Committee, 1974, 1978. .......... 30.00

### СУСТРЭЧА!!!

Сёлетняя Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Кліўлендзе, прысьвечаная 35-годзьдзю беларускага арганізацыйнага жыцьця ў Канадзе й ЗША, будзе як ніколі багатая праграмай. Гасьцінныя кліўлендцы чакаюць ўсіх вас на канцатыдзень Сьвята Працы (1-3 верасьня).

**Галоўная ўправа БАЗА**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**Падпіска й ахвяры, пераcланыя беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

### ЗША

| | | |
|---|---|---|
| 1. | В. і М. Махнач | $ 50.00 |
| 2. | А. Бяленіс | 50.00 |
| 3. | М. Васілеўская | 30.00 |
| 4. | Н. Кіт | 25.00 |
| 5. | М. Ягаўдзік | 25.00 |
| 6. | П. Міранoвіч | 20.00 |
| 7. | М. Каленік | 20.0 |
| 7. | М. Каленік | 20.00 |
| 8. | С. Стаськевіч | 20.00 |
| 9. | Т. Шыбут | 20.00 |
| 10. | Н. Жызьнеўскі | 20.00 |
| 11. | Я. і К. Вініцкі | 20.00 |
| 12. | М. Хмыз | 12.00 |
| 13. | В. Ярашэвіч | 12.00 |
| 14. | Л. Ліўвіч | 10.00 |
| 15. | М. Міцкевіч | 10.00 |
| 1н. | П. Ракуць | 10.00 |
| 17. | В. Захаркевіч | 10.00 |
| 18. | Я. Ціпко | 10.00 |
| 19. | Я. Юхнавец | 10.00 |
| 20. | В. Сіяк | 5.00 |

Замест кветак на магілу с.п. Вольгі Жарыч:

| | | |
|---|---|---|
| 21. | Ю. Найдзюк | 30.00 |
| 22. | П. Ермін | 20.00 |

Замест кветак на магілу с.п. Галіны Орса:

| | | |
|---|---|---|
| 23. | К. і І. Муха | 25.00 |

**Разам: $ 464.00**

**Сабрана на сьвяткаваньні 25 сакавіка ў Нью Ёрку:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Ф. і В. Бартуль | $ 100.00 |
| 2. | Ул. Набагез | 100.00 |
| 3. | М. Заморскі | 100.00 |
| 4. | Г. Тэдон | 100.00 |
| 5. | В. Станкевіч | 30.00 |
| 6. | М. Абрамчык | 20.00 |
| 7. | Ул. Р. | 20.00 |
| 8. | К. Мярляк | 20.00 |
| 9. | В. Р. | 20.00 |
| 10. | П. Рамана | 20.00 |
| 11. | Р. Станкевіч | 20.00 |
| 12. | В. Тур | 20.00 |
| 13. | Я. Запруднік | 20.00 |
| 14. | Я. Каханоўская | 15.00 |
| 15. | З. Станкевіч | 15.00 |
| 16. | Я. Азарка | 10.00 |
| 17. | Ю. Азарка | 10.00 |
| 18. | Л. Драздова | 10.00 |
| 19. | В. Кажан | 10.00 |
| 20. | А. Ліхач | 10.00 |
| 21. | а. А. Яноўскі | 10.00 |
| 22. | А. Міцкевіч | 10.00 |
| 23. | Л. Стагановіч | 10.00 |
| 24. | А. Субота | 10.00 |
| 25. | М. Б. (неразборліва з Саўт Рывэру) | 10.00 |
| 26. | А. Шукелайць | 10.00 |
| 27. | М. Тулейка | 10.00 |
| 28. | В. Тумаш | 10.00 |
| 29. | К. і М. Верабей | 10.00 |
| 30. | Ананімна | 5.00 |
| 31. | С. Гутырчык | 5.00 |
| 32. | А. Яновіч | 5.00 |

**Разам: $775.00**

### КАНАДА

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Э. Пітушка | $ 50.00 |
| 2. | Р. Беразоўскі | 25.00 |
| 3. | В. Лішчонак | 20.00 |
| 4. | К. Каранеўскі | 12.00 |

**Разам: $ 107.00**

### АЎСТРАЛІЯ

**Праз сп. М. Нікана з Мэльбурну:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | М. Скабей | аўстр. дал. 25.00 |
| 2. | Г. Шайпак | 25.00 |
| 3. | М. Нікан | 25.00 |
| 4. | М. Шэка | 22.00 |
| 5. | М. Куляга | 20.00 |
| 6. | У. Сідлярэвіч | 20.00 |
| 7. | З. Кадняк | 20.00 |
| 8. | М. Яўневіч | 17.00 |
| 9. | А. Груша | 15.00 |
| 10. | А. Кукель | 15.00 |
| 11. | М. Субач | 15.00 |
| 12. | Т. Лашук | 15.00 |
| 13. | А. Калодка | 15.00 |
| 14. | А. Грынько | 10.00 |
| 15. | Л. Яцкевіч | 10.00 |

**Разам: а. д. 270.00**
**У амэр. валюце: $ 266.99**

**Усім ахвярадаўцам, падпісчыкам і прадстаўніком газэты шчыры дзякуй.**

**Рэдакцыя „Беларуса"**

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"**